# СЛОНІМСКІ КРАЙ

№ 7, жнівень 2016

Краязнаўчы бюлетэнь



Старыя фотаздымкі

## “Крывавым следам”. З калекцыі Язэпа Стаброўскага



1 жніўня 1914 года пачалася Першая сусветная вайна. Упершыню ў гісторыі колькасць ахвяраў узброенага канфлікту перасягнула лічбу ў дзесятак мільёнаў чалавек.

Непасрэдным удзельнікам тых падзей стаў падпалкоўнік царскай арміі, ураджэнец Слонімшчыны Язэп Стаброўскі, які да вайны, акрамя археалогіі і вывучэння гісторыі роднага края, захапляўся яшчэ фотасправай.

Свае здольнасці ён прымяніў на фронце, задакументаваўшы ўсе яго разнастайныя бакі.

*Працяг чытайце на с. 4*

## Пра слонімскі кінатэатр “Вясёлка”

У Слоніме пры польскай уладзе ў 1920-1930-я гады існавалі некалькі кінатэатраў. На жаль, пра іх дагэтуль не з’явілася грунтоўнай публікацыі. Таму не дзіўна, што ў інтэрнэце сустракаюцца памылковыя ўяўленні пра кінатэатры і іх размяшчэнне.

На сайце Слонімскага дзяржаўнага медыцынскага каледжа ў рубрыцы “Фотаальбом старажытнага горада Слоніма” ёсць здымак прыгожага будынка з подпісам “Кінатэатр насупраць касцёла св. Андрэя (былы рэстаран “Бярозка”)”.[1] Тое, што насупраць касцёла ў 1930-я гады быў кінатэатр, сумненняў няма. Але ніяк не ў будынку былога рэстарана, узведзенага толькі ў 1950-я гады.[2] Кожны жадаючы можа наведаць плошчу Сапегі і параўнаць будынак насупраць касцёла з будынкам кінатэатра са здымка.



Дакладна невядома, калі ў Слоніме з’явіўся першы кінатэатр, магчыма, яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны.

*Працяг чытайце на с. 7*

- Што такое Слонімшчына?
- Гэта наша Беларусь!
- Што такое Беларусь?
- Гэта наша Ўсё!

# Першая сусветная вайна на Слонімшчыне

1 жніўня 1914 года (19 ліпеня па старому стылю) пачалася Першая сусветная вайна, у якой прымалі ўдзел усе мацнейшыя дзяржавы свету. Ужо на наступны дзень, 2 жніўня, у Слонімскім павеце было ўведзена ваеннае становішча: забараняліся сходы, выступленні, няўрадавыя мерапрыемствы. Пачалася мабілізацыя.

У Слоніме знаходзяцца войскі, якія паступова перакідваюцца далей на Захад. Але, як да вайны, так і з яе пачаткам, салдаты актыўна карыстаюцца паслугамі мясцовых фотасалонаў, у першую чаргу Б. Вайнштэйна. На адваротным баку аднаго з фоtaздымкаў, зробленым слонімскім майстрам, захаваўся запіс ад 9 студзеня 1914 года: *“На добрую памяць. Фрыцу Якаўлевічу Гутману, ад Міхаіла Іванавіча Машача”*.



Але ўжо праз год ваенныя дзеянні разгараюцца і на тэрыторыі Беларусі. Летам 1915 года ў сувязі з паражэннем рускіх войск ў Польшчы, пачынаецца адступленне царскай арміі на Усход.

Праводзіцца прымусовая эвакуацыя насельніцтва ўглыб Расіі. Сведкам гэтых падзей стаў Пётр Антонавіч Герасімчык, у будучым удзельнік партызанскага руху часоў Вялікай Айчыннай, на той момант – сямігадовы жыхар вёскі Васілевічы. Ён быў малодшым з сямі дзяцей. Старэйшы яго брат, Аляксей, быў мабілізаваны ў армію, як і дзесяткі іншых васілёўцаў, а іх сем'і вымушаны былі пакінуць родную зямлю. Напачатку ўласным конным транспартам яны даехалі да Койданава, дзе прадалі жывёлін. Затым іх пагрузілі ў таварныя вагоны і давезлі да станцыі Шуміха Арэнбурскай губерні. Адтуль коньмі прывезлі ў вёску Сажэно Чалябінскага павета той жа губерні. Пра тыя часы П.А. Герасімчык успамінаў: “Пакуль старэйшыя браты ўладкоўваліся на працу наймітамі да кулакоў, маці і я, як самы малодшы, хадзілі па свеце і прасілі падаць кавалачак хлеба, і такім чынам кармілі ўсю сям'ю”. У 1916 годзе сям'я П.А. Герасімчыка пераехала жыць у горад Спаск Тамбоўскай губерні, адкуль 1 лістапада 1921 года іх эвакуіравалі, як бежанцаў, па дамове Савецкай Расіі з Польшчай на Радзіму.




*Слонімскае Замосце пасля бою ў верасні 1915 года*

Для жыхароў Слонімшчыны месцамі пражывання былі вызначаны: сяло Гуляй-Поле Екацярынаслаўскай губерні, гарады Чугуеў і Славянск Харкаўскай губерні. І.Р. Шпыркова зазначае, што ў Слоніме за кошт казны былі эвакуіраваны толькі дзяржслужачыя і афіцэрскія сем'і 117-га Яраслаўскага і 118-га Шуйскага пяхотных палкоў. Сяляне і гараджане ад'язджалі, спадзяючыся толькі на ўласныя сілы. Слонімскі павет напалову апусцеў. Напрыклад, у пасёлку “Альбярцін” засталося толькі 10 сем'яў.

Куніца Я.З., ураджэнец Слоніма, удзельнік працоўнага руху, успамінаў: “Адступленне царскай арміі на Заходнім фронце на працягу лета 1915 года суправаджалася бязлітасным спусташэннем усіх тых раёнаў, па якіх армія адступала. Вёскі палілі, і разам з імі знішчаўся толькі што зняты ўраджай, а сяляне сілком выганяліся з наседжаных месцаў. Тысячы людзей скапіліся на дарогах і цэлымі тыднямі рухаліся на ўсход. Многія, галоўным чынам старыя, дзеці, жанчыны, гінулі ад халеры, чорнай воспы, тыфа. Целы загінуўшых валяліся па дарогах, распаўсюджваючы вакол дзікі смурод. Адступаючая армія змяшалася з гэтай велічэзнай масай грамадзянскіх людзей і падвод, а насцігаючыя нямецкія аэрапланы лёталі над галавамі людзей, няспынна скідывалі бомбы, пакідаючы пасля сябе груды разадраных цел”. Вайсковы доктар Л. Вайталоўскі пісаў: “Непахаваныя дзіцячыя трупікі трапляюцца на кожным кроку”.

Разам з людзьмі на ўсход адпраўлялася абсталяванне заво-

даў і фабрык. Тое, што не маглі вывезці, знішчалі адступаючыя рускія войскі. Толькі ў Альбярціне засталіся некранутымі прамысловыя прадпрыемствы. Але яны былі канфіскаваны немцамі, а абсталяванне накіравалі ў Германію.

У Расію вывозіліся і найбольш каштоўныя рэчы, якімі валодалі мясцовыя шляхцічы. Так, з маёнтка Альбярцін Уладзіслава Пуслоўскага ў Маскву былі вывезены чатыры з паловай вагоны каштоўнасцяў, з якіх пасля вайны атрымалася вярнуць толькі паўвагона.

Рускія войскі былі не ў стане супрацьстаяць германскай арміі. Цяжкі стан Заходняга фронта апісаў заснавальнік Слонімскага рэгіянальнага музея, сам удзельнік вайны - палкоўнік царскай арміі Язэп Стаброўскі, які камандаваў артылерыйскім дывізіёнам. Так, апавядаючы пра рознага кшталту глупствы кіраўніцтва, ён адзначае распараджэнне збіраць стрэльбавыя гільзы і здаваць іх у склады па кошце 80 рублёў за пуд. Следствам гэтага распараджэння стала апантанная страляніна ў акопах для фабрыкацыі гільз. Ці, напрыклад, пра тое, што ў тылах нейкі дасціпны вынаходнік прыдумаў спосаб выдатна чысціць самагонку, прапускаючы яе праз… супрацьгазавую маску. Справа дайшла да такіх памераў, што прыйшлося пагражаць растрэлам кожнаму, у каго маска апынецца сапсаванай дадзенай аперацыяй. Але і гэта не дапамагло: аднекуль даставалі маскі і па выкарыстанні, выкідвалі, так, што вялікае мноства іх валялася па лясах і дарогах. Аб якой рэальнай супрацьвазе можа ісці размова, калі на кожных 100 рускіх салдат, якія загінулі на полі боя, прыходзілася 300, што здаліся ў палон.



*Нямецкія тэлеграфісты святкуюць у Слоніме Каляды 1916 года*

7 верасня 1915 года (26 жніўня па старым стылі) чатырохдзённыя баі разварнуліся ў Слоніме. Шчара, праз якую адступаючымі рускімі войскамі былі ўзарваны ўсе масты, падзяліла дзве варожыя арміі. Пад час баёў у горадзе ўспыхнуў пажар, у выніку якога было амаль цалкам знішчана Замосце (правабярэжная частка горада).

Слонімцы вымушаныя былі хавацца ў склепах пад хатамі, дзе многія так і засталіся, пахаваныя зажыва.

15 верасня немцы занялі горад і сталі яго гаспадарамі. Так пачалася акупацыя, якая доўжылася амаль 40 месяцаў.

Немцы распрацавалі шырокую сістэму падаткаў і штрафаў. Падатак браўся з плакатаў, забаўных відовішчаў, бальніц, бойняў, рынкаў, за рэзанне скаціны і г.д. Акрамя гэтага, усё насельніцтва ва ўзросце ад 15 да 60 гадоў павінна было плаціць падушны падатак. Спачатку нямецкія часткі вялі сябе дысцыплінавана. Але калі фронт усталяваўся на лініі Браслаў – Паставы – Смаргонь – Баранавічы – Пінск, у Слоніме размясціліся ваенныя штабы, палявыя суды, лазарэты, для якіх патрэбны былі прадукты харчавання. Пачаліся рэквізіцыі.

Палац Пуслоўскага ў Альбярціне быў заняты пад рэзідэнцыю камандуючага Усходнім фронтам германскай арміі генерала Войерша, які пазней, падчас адступлення, вывез з палаца 10 партрэтаў каралёў Рэчы Паспалітай. У Альбярціне размясцілася і 118-я сельскагаспадарчая калона Усходняга фронта нямецкіх войск, якая займалася нарыхтоўкай прадуктаў і высечкай лясоў. У сувязі з тым, што вёскі вакол Слоніма апусцелі, нямецкія акупацыйныя ўлады выселілі на працягу 24 гадзін з горада 500 бяднейшых сем'яў у сельскую мясцовасць.



*Нямецкія вайскоўцы на Маставой вуліцы ў Слоніме*



*Нямецкія салдаты на вуліцы Пуцейскай (цяпер Маякоўскага)*

У Слоніме, як і ў шэрагу іншых прыфрантавых гарадоў, нямецкай разведкай былі адкрыты спецыяльныя кароткачасовыя курсы (школы) для навучання шпіёнаў. Сярод "навучэнцаў" гэтых устаноў былі інжынеры, фатографы, урачы, фокуснікі, прадаўцы, артысты. Меліся нават спецыяльныя атрады са старых, калек, якія дзейнічалі пад відам жабракоў. Язэп Стаброўскі ў сваёй ненадрукаванай працы "Вайна 1914", якая захоўваецца ў Слонімскім гісторыка-краязнаўчым музеі, адзначаў, што ў Слонімскую школу вербаваліся і маладыя, прыгожыя дзяўчыны. Там яны праходзілі пад пэўнымі нумарамі, якія звычайна адзначаліся на падкладцы адзення. Менавіта па гэтых нумарах руская разведка вызначала шпіёнаў.

У горадзе быў створаны грамадзянскі камітэт на чале з ксяндзом Клямом. Але ўжо ў сярэдзіне 1916 года Слонімам стаў кіраваць ваенны бурмістр. І толькі ў сярэдзіне 1918 года была арганізавана гарадская ўправа з 10 мясцовых выбарных дэпутатаў.

Паводле перапісу 1916 года ў горадзе засталіся: рускіх – 12 чалавек, палякаў – 200, татар – 100, габрэяў – 11680. Яны зведалі ўсе наступствы акупацыі: прымусовыя мабілізацыі на лесанарыхтоўкі і іншыя працы. Частка слонімскай моладзі была адпраўлена ў Германію. Нязгодныя з новым парадкам гінулі за кратамі канцлагера, які дзейнічаў у Альбярціне ў будынку былой шаўковай фабрыкі.

Патрэбы фронта прывялі да таго, што ў 1917 годзе немцы змантавалі ў горадзе электрастанцыю, якая ажывіла працу некалькіх майстэрняў і млына.

Нямецкія салдаты наладзілі ў Слоніме выпуск палявых паштовак з відамі горада, якія яны накіроўвалі дадому. На паштоўках мясцовых фатографаў Б. Вайнштэйна і Г. Браўна, а таксама знятых самімі нямецкімі салдатамі, можна пабачыць слонімскія вулачкі, як даваенных часоў (сённяшнія Першамайская, Пушкіна, Кірава, Ружанская, Камуністычная, Я. Купалы, Хлюпіна), так і вынікі вераснёўскіх баёў 1915 года, ці пажар 22 мая 1918 (другі за гады вайны) і яго наступствы. Гэтыя паштоўкі ў свой час можна было набыць у слонімскай кнігарні Рыпа. Зараз яны захоўваюцца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі.

У сувязі з Лістападаўскай рэвалюцыяй і капітуляцыяй перад краінамі Антанты, нямецкія войскі ў ноч з 13 на 14 студзеня 1919 года пакінулі Слонім, у які ўвайшлі часткі 17-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі.

Так для Слоніма скончылася Першая сусветная вайна, у выніку якой яго насельніцтва скарацілася з 22 тысяч жыхароў да 9 тысяч, а горад нагадваў вялікую разбураную вёску.

**Васіль Герасімчык**

# "Крывавым следам". З калекцыі Язэпа Стаброўскага

У Слонімскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі захоўваецца цікавы фотаальбом, складзены заснавальнікам музея і ўдзельнікам Першай сусветнай вайны Язэпам Язэпавічам Стаброўскім (1870-1968).

Ураджэнец Слонімшчыны прайшоў усю вайну, даслужыўшыся да звання палкоўніка. Ён стаў сведкам цяжкага франтавога жыцця, пра якое распавёў не толькі ва ўласных успамінах, але і на фотакартках, з якіх зрабіў фотаальбом "Крывавым следам (Успаміны з вайны 1914 года. Альбом з 300 здымкамі)".

З этнаграфічнай скрупулёзнасцю ў ім адлюстраваны побыт простых салдат, падрыхтоўка да баёў. У той жа час Стаброўскі стаў сведкам шматлікіх жахаў вайны, жыцця бежанцаў, праблема якіх была адной з самых балючых у гісторыі Беларусі часоў вайны.

Тэматычна альбом дзеліцца на шэраг раздзелаў і пачынаецца выявамі падрыхтаваных да бою вайсковых пазіцый, бліндажоў, дротавых загарод, акопаў.

Пры чым на здымках пазначаны ўдзел у іх будаўніцтве грамадзянскага насельніцтва, перш за ўсё жанчын. Таксама маюцца выявы нямецкіх акопаў, відавочна, захопленых у час баёў.

Асобнае месца адведзена жыццю рэзерваў, называных Стаброўскім «трагладытамі».

Паказаная таксама разведка, як конная, так і пры дапамозе аэрастатаў.

Цікавасць уяўляе фотазды-



*Салдаты 217-га Каўроўскага палка, атручаныя ўдушлівымі газамі ў Волі-Шыдлавецкай 18 траўня 1915 года*

мак радыётэлеграфа 35-га армейскага корпуса, асобна паказаная вышыня яго антэны.

Калі ў 1915 годзе на фронце назіраўся недахоп боепрыпасаў, то ў 1916 годзе гэтай праблемы ўжо не было. Таму адзін з фотаздымкаў, на якім занатавана вялікая колькасць артылерыйскіх снарадаў падпісаны Стаброўскім “Патронаў не шкадаваць”.

Значная частка здымкаў прысвечана вайсковаму бою. На адным з іх паказаная атака нямецкіх пазіцый паблізу возера Нарач Віленскай губерні 5 сакавіка 1916 года.

У альбоме маюцца таксама выявы афіцэраў штаба 35-га армейскага корпусу і начальніка 55-й пяхотнай дывізіі, у якой служыў Я. Стаброўскі, генерал-маёра Захарава. Да здымка змешчаныя словы з ананімнага ліста, дасланага яму: “Сабака ты, і душа ў цябе сабачая”.

Асобнае месца ў альбоме адведзена вайсковым пахаванням, да якіх сам Стаброўскі складаў надмагільныя надпісы. Напрыклад,

“Могилки наши берегите,
Мы все легли за Край родной.
Сюда молиться приходите –
Нам легче спать в земле сырой...”

У альбоме змешчаны некалькі дзесяткаў надпісаў на надмагіллях памяці героеў 35-га армейскага корпусу. Асобнае месца займае тэма салдацкіх крыжоў.

Увогуле, салдацкая смерць з’яўляецца тым коштам, які ў першую чаргу плоцяць ваюючыя бакі. І гэта не толькі загінулыя ў баях, але і замерзлыя,атручаныя ўдушлівымі газамі, як каля Жырардава (сёння на тэрыторыі Польшчы), або  на рацэ Раўцы пад Баржынёвым, дзе сам Стаброўскі быў атручаны 18 траўня 1915 года.

Аднак не заўсёды ў час бою салдат гіне. Шмат застаецца параненых, знявечаных артылерыйскімі аскепкамі. Альбом паказвае, як медыцынскія супрацоўнікі змагаюцца за жыццё вайскоўца, а таксама дэманструе характар разнастайных раненняў у выніку трапляння аскепкаў у цела.

Новай з’явай, якая адрознівала першую сусветную вайну ад папярэдніх сталі рэгулярныя медыцынскія агляды, антыхалерныя прывіўкі і дэзынфекцыі, а таксама выкарыстанне новых відаў узбраення. У альбоме маюцца выявы аэрапланаў, сярод якіх і нямецкі, збіты восенню 1917 года ў раёне 35-га армейскага корпусу.

Паколькі рускай арміі прыходзілася адступаць на Усход  і немцы захоплівалі частку тэрыторыі Расійскай імперыі, яе кіраўніцтвам была пастаўлена задача па ажыццяўленні так званай “выпаленай зямлі”. Прыкладам яе з’яўляецца фотаздымак, падпісаны “Знішчэнне пасеваў перад адступленнем”. Вялікая колькасць мірнага насельніцтва прымусова адпраўлялася на ўсход, ператвараючыся ў бежанцаў. Меліся выпадкі і рабаванні грамадзянскай маёмасці.

Стаброўскі на фотаздымках падрабязна занатаваў пакаранні шпіёнаў праз растрэл і павешанне.

Не абыходзілася вайсковае жыццё без аглядаў, святаў, спяктаклаў, танцаў. У альбоме маецца здымак, падпісаны “Гульні дарослых” у вольны час штаба 55-й пяхотнай дывізіі.

Таксама ў альбоме маюцца карыкатуры і паштоўкі, прысвечаныя вайне, пракламацыі, адрасаваныя нямецкім і рускіх салдатам і заклікам здавацца ў палон.

У цэлым альбом “Крывавым следам” мае глыбокі антываенны накірунак, падрабязна спыняецца на тых старонках, якія звычайна застаюцца па-за ўвагай гісторыі з яе геразацыяй вайсковых падзей.

Частка фотаздымкаў альбома Язэпа Стаброўскага прадстаўленая ў экспазіцыі Слонімскага музея.



*Атака нямецкіх пазіцый паблізу возера Нарач 5 сакавіка 1916 года*

**Васіль Герасімчык**



*Радыётэлеграф 35-га армейскага корпусу*



*Паранены*



*Пасля бою ў вёсцы Крэва ў сакавіку 1916 года*



*Ажыўленне кіслародам атручанага ўдушлівымі газамі*



*Супрацьгазавыя маскі*



*Бліндаж*

# Пра слонімскі кінатэатр “Вясёлка”




*Кінатэатр Юзафа Ельяна на вуліцы Сянкевіча (цяпер Першамайская)*

*Працяг. Пачатак на с. 1*

Вядома, што кінатэатр дзейнічаў у горадзе падчас нямецкай акупацыі ў 1916 годзе.[3] На пачатак 1933 года ў Слоніме працавалі кінатэатр “Modern” (“Мадэрн”) і два вайсковыя кінатэатры.[4] Апошнія знаходзіліся ў казармах, а “Мадэрн” — у будынку (ён не захаваўся) па вуліцы Сянкевіча (цяпер — Першамайская, участак ад Савецкай вуліцы да плошчы Леніна), яго гаспадаром быў Юзаф Ельян.

Інфармацыю пра тое, калі ў Слоніме на плошчы Сапегі з’явіўся новы кінатэатр — “Tęcza” (“Вясёлка”) — удалося адшукаць зусім нядаўна. Высветлілася, што ён знаходзіўся ў будынку, які не захаваўся (недалёка ад плябаніі). Гэта на яго месцы пасля з’явіўся рэстаран “Бярозка”. Але аб усім па парадку.

Ідэя пабудовы новага кінатэатра ў Слоніме з’явілася яшчэ ў 1932 годзе. Тады ў прэсе ўзнікла дыскусія на тэму яго неабходнасці, паколькі кінатэатр Ельяна слонімцаў задавальняў.[5] Як успамінае наш зямляк Барыс Данілюк, якраз у той час у польскім грамадстве стаў заўважны “непрыхаваны афіцыйны антысемітызм”, мясцовых жыхароў заклікалі купляць тавары не ў яўрэйскіх крамах, а ў “хрысціянскіх”, якія мелі падтрымку ўладаў. “На Замосці ж насупраць касцёла Св. Андрэя ксёндз выстараўся пабудаваць вялікі драўляны дом, у якім адчынілася каталіцкае кіно “Tęcza”, — піша ў сваіх успамінах Б. Данілюк.[6] Адзначым, што на згаданым у пачатку артыкула здымку бачым мы не драўляны дом, а цагляны. Альбо Данілюк памыліўся, альбо на здымку мы бачым не “Вясёлку”. Ва ўсялякім разе трэба гэта ўдакладніць.

Адкрыццё “Вясёлкі” адбылося ў пачатку снежня 1936 года (амаль 80 гадоў таму). “Навагрудскі кур’ер” пацвярджае, што гэта быў каталіцкі праект — кінатэатр месціўся ў “парафіяльным доме... пры плошчы князя Сапегі”, на ўрачыстым адкрыцці “новапаўсталай польскай пляцоўкі”, у якім паўдзельнічалі прадстаўнікі мясцовых уладаў, выступаў ксёндз Францішак Кафарскі, слонімскі дэкан у 1936-1939 гады.[7] Падкрэслівалася, што місія “Вясёлкі” не толькі ў атрыманні прыбытку, ён быў створаны для ідэі, для “музы духа і культуры”. “Польскае грамадства з радасцю вітае новапаўсталую пляцоўку забаўляльна-культурніцкую, якой з’яўляецца кінатэатр... “Вясёлка” можа смела спадзявацца на падтрымку слонімскага грамадства”, — пісаў “Навагрудскі кур’ер”.[8]

Барыс Данілюк успамінае, што адразу пасля адкрыцця новага кінатэатра ў горадзе пачалася агітацыя супраць наведвання кінатэатра “Мадэрн”, падкрэслівалася, што ён — “яўрэйскі”. Больш таго, групы хуліганаў прыходзілі да кінатэатра Ельяна, абражалі, пагражалі наведвальнікам, а жанчынам-яўрэйкам рэзалі футры.[9]

Па паведамленнях польскіх газет можна зрабіць выснову, што яўрэі супрацiўляліся такім дзеянням антысемітаў. У Слоніме з некалькіх афішных тумбаў невядомыя пазрывалі афішы “Вясёлкі”. Праз некалькі гадзін з тумбаў зніклі і афішы “Мадэрна”. Такая “вайна” працягвалася некалькі дзён. А той жа “Навагрудскі кур’ер” толькі распальваў канфлікт, падкрэсліваючы, што “Вясёлка” з’яўляецца “прадпрыемствам хрысціянскім, а “Мадэрн” — жыдоўскім”.[10] А вясной 1937 года невядомыя рвалі на кавалкі фотаздымкі ў самым кінатэатры “Вясёлка” — ілюстрацыі да



*Афішная тумба на скрыжаванні вуліц Касцюшкі і Міцкевіча*



*Плябанія была на пэўнай адлегласці ад плошчы Сапегі, а вось кінатэатр пабудавалі бліжэй да праезнай часткі*

фільмаў.[11]

З прыходам у верасні 1939 года савецкіх уладаў, кінатэатры былі нацыяналізаваныя. Ёсць звесткі, што яны пры "першых саветах" не працавалі.[12] Аднак, паколькі кінатэатры дзейнічалі падчас нямецкай акупацыі, можна зрабіць выснову, што іх маглі выкарыстоўваць па прызначэнню і бальшавікі (тут трэба правесці дадатковыя пошукі). Паводле сведчання Б. Данілюка, нямецкія акупанты ў 1941-1942 гадах былы кінатэатр Ельяна зрабілі "сваім", а мясцовым жыхарам дазволілі наведваць "кіно каля плябані на Замосці".[13]

Які ж быў лёс "Вясёлкі"? Вядомы слонімскі краязнавец, заснавальнік і кіраўнік Народнага музея СШ № 4 Аляксандр Жукоўскі пісаў у 1994 годзе наступнае: "Я добра памятаю таксама пабудаваны касцёлам ля вуліцы будынак кінатэатра "Тэнча"... На жаль будынкі (таксама будынак плябаніі і іншыя дамы ў раёне плошчы Сапегі — С.Ё.) згарэлі ў час Вялікай Айчыннай вайны". Жукоўскі падкрэслівае, што рэстаран "Бярозка" быў пабудаваны на тым месцы ў 1950-я гады.[14]

А вось па звестках польскага гісторыка Марыі Каламайскай-Саед, будынак плябаніі ацалеў і ад 1949 года (пасля арышту ксяндза Генрыха Драгеля) перайшоў ва ўласнасць горада, быў занядбаны і неўзабаве канчаткова разбураны.[15]

Цікава, што польскія ўлады ў канцы 1930-х гадоў планавалі адкрыць яшчэ адзін кінатэатр у Слоніме — на скрыжаванні Бернардынскай і 3 Мая. Але рэалізаваць гэты праект не паспелі. Пра яго "СК" распавядзе ў адным з наступных нумароў.

**Сяргей Ёрш**


1. Фотоальбом древнего города Слонима // http://www.slonimsmc.grodno.by/slonim_old_rus.html

2. Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск: "Навука і тэхніка", 1983, с. 44.

3. Ёрш С. Слонім на старонках нямецкай газеты 1916-1918 гадоў // Слонімскі край, 2016, № 4, травень, с. 6.

4. Kurjer Nowogródzki, 1932, № 27, 4 лютага; Halski M. Słonimszczyzna (Monograficzny szkic Słonimszczyzny) // Nasz lot: jednodniówka z okazji 10-cioletniego jubileuszu istnienia Oddziału Powiatowego Związku Nauczycielstwa Polskiego w Słonimie 1922-1932. Słonim, 1933, 4 лютага, с. 16.

5. Kurjer Nowogródzki, 1932, № 22, 28 студзеня.

6. Данілюк Б. Азіраючыся расой вымытымі вачыма: Успаміны. Мінск: "Лімарыус", 2012, с. 145.

7. Kurjer Nowogródzki, 1936, № 342, 13 снежня.

8. Kurjer Nowogródzki, 1936, № 344, 15 снежня.

9. Азіраючыся расой вымытымі вачыма, с. 145-146.

10. Kurjer Nowogródzki, 1936, № 346, 17 снежня; Kurjer Nowogródzki, 1936, № 347(1832), 18 снежня.

11. Kurjer Nowogródzki, 1937, № 109, 22 красавіка.

12. Карась Н. Слонім і Слонімшчына ў 1918-1939 гадах па старонках архіўных дакументаў // Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Слонім, 2002, с. 253; Чыгрын С. У Слоніме зніклі "Мадэрн" і "Мір" // Слонімскі край, 2016, № 4, травень, с. 2.

13. Азіраючыся расой вымытымі вачыма, с. 258.

14. Жукоўскі А. Дзе продкаў ступала нага // Слонімскі веснік, 1994, 12 красавіка.

15. Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013, s. 35.





*У польскамоўнай "Слонімскай газеце", якую ў 1938-1939 гадах выдавалі Людміла і Сяргей Новікі, друкаваліся рэкламныя абвесткі і "Мадэрна", і "Вясёлкі". У абодвух кінатэатрах можна было пaглядзець польскія патрыятычныя фільмы.*

# Георгій Пех даследаваў старажытны Слонім



*Георгій Пех*

Заснавальнік Ваўкавыскага ваеннна-гістарычнага музея, археолаг, калекцыянер, краязнавец, мастак Георгій Пех (1897-1969) вельмі шчыра і шмат гадоў сябраваў з заснавальнікам Слонімскага краязнаўчага музея, такім жа апантаным як ён калекцыянерам, краязнаўцам і музейшчыкам Язэпам Стаброўскім (1870-1968).

У 1946 годзе Пех завітаў да яго ў Слонім. У траншэі на замчышчы на глыбіні каля двух метраў, ён знаходзіць некалькі фрагментаў сярэднявечнай керамікі і кавалак шклянога бранзалета жоўтага колеру. Знойдзеныя прадметы сталі падставаю для правядзення на замчышчы архелагічных раскопак у 1959 годзе, у выніку якіх быў лакалізаваны гістарычны цэнтр Слоніма.

Але першыя раскопкі ў Слоніме і ў вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна Георгій Пех правёў восенню 1953 года. У маім хатнім архіве захоўваюцца копіі двух адкрытых лістоў на дазвол Пеху праводзіць раскопкі ў Слоніме і ў вёсцы Васілевічы. Адзін ліст ад 22 кастрычніка 1953 года за подпісам выконваючага абавязкі дырэктара Інстытуа гісторыі Акадэміі Навук БССР кандыдата гістарычных навук І. Краўчанкі і загадчыка сектарам археалогіі гэтага ж інстытута кандыдатам гістарычных навук К.Палікарповічам, дзе ў лісце паведамляецца: “Сапраўдны адкрыты ліст выдадзены Інстытутам гісторыі АН БССР дырэктару Ваўкавыскага музея Георгію Іосіфавічу Пеху ў тым, што яму сапраўды дазваляецца праводзіць раскопкі гарадзішча ў горадзе Слоніме на месцы былога замка Агінскага і аднаго кургана ў вёсцы Васілевічы Слонімскага раёна. Тав. Г.І.Пеху дазваляецца рабіць неабходныя ў працэсе археалагічнай працы замеры, здымкі планаў і чарцяжоў, замалёўкі, фотаздымкі і г.д… Тав. Г.І.Пеху абавязаны не пазней 1 снежня 1953 года прадаставіць у сектар археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР навуковую справаздачу аб праведзеных па-сапраўднаму адкрытаму лісту даследаваннях”.

Другі адкрыты ліст за подпісамі Краўчанкі і Палікарповіча на археалагічныя даследаванні Пехам Слоніма быў выдадзены 8 чэрвеня 1959 года. А намеснік начальніка Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры Гардзееў 6 чэрвеня 1959 года за № 396 даў распараджэнне: “Накіраваць з 1 чэрвеня па 30 чэрвеня 1959 года дырэктара Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя Баграціёна тав. Пеха Г.І. у распараджэнне Слонімскага краязнаўчага музея для правядзення археалагічных раскопак у г.Слоніме”. Пасля раскопак Георгій Пех зрабіў некалькі пісьмовых справаздач, а таксама публікацыю ў кнізе “Древности Белоруссии” (Мн.,1966).

Дарэчы, Георгій Пех з 1 чэрвеня па 15 верасня 1946 года нават працаваў у Слонімскім краязнаўчым музеі. Да сябе яго ўзяў Язэп Стаброўскі. Бо ў Ваўкавыску тады з-за розных музейных непаразуменняў з мясцовым начальствам, ён некалькі разоў звальняўся з працы, але яго зноў клікалі ў Ваўкавыск. І Пех вяртаўся…

Прапаную чытачам СК урывак са справаздачы Георгія Пеха пра раскопкі Слоніма ў 1959 годзе.

**Сяргей Чыгрын**

# Летапісны Слонім

Слонім ужо напачатку XI стагоддзя згадваецца сярод старажытных гарадоў, якія знаходзіліся на заходніх рубяжах Русі. Першае ўпамінанне пра яго адносіцца да 1019 года, гэта значыць да таго часу, калі Яраслаў І ваяваў з яцвягамі.

У 1038 годзе з вызваленнем Прынёмання ад літоўцаў і яцвягаў, Слонім становіцца вядомым, як Вслонім ці Услонім.

У 1040 годзе Яраслаў І разбіў літоўцаў на берагах Шчары (у ваколіцах Слоніма) і заставіў іх плаціць даніну.

Па дадзеных польскіх хронікаў, Слонім у 1241 годзе быў разбураны мангола-татарскімі полчышчамі Койдана, пасля чаго трапіў пад уладу літоўскага князя Эрдзівіла Рынгальдавіча.

У 1249 годзе галіцкі князь Даніл распачаў няўдачны паход на Слонім і Ваўкавыск, а праз тры гады (1252) выслаў зноў у паход на Слонім свайго сына Льва.

У 1254-1255 гадах згодна Холмскай мірнай дамовы, Слонім і Ваўкавыск перашлі ва ўладанні Рамана Даніілавіча. У час паўторнага нашэсця на Літву татар, Слонім і Ваўкавыск у 1258-1259 гадах знаходзіліся зноў у руках літоўскіх князёў Войшалка і Тоўцівіла.

У 1281 годзе Слонім знаходзіўся ва ўладзе “князя Васлонімскага” – Васількі. Быў гэта, магчыма, апошні рускі князь, які валодаў Слонімам.

У другой палове XII стагоддзя Слонім пераходзіў з рук у рукі, то рускіх, то літоўскіх князёў, а пасля ўвайшоў у княжанне Гедыміна ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

**Георгій Пех**

Рэдкія выданні

# Першае выданне пра Жыровічы




*Charkiewicz W., "Żyrowice – łask krynice...". Słonim, 1930.*

У 1930 годзе на сродкі слонімскага аддзела Польскага краязнаўчага таварыства была надрукавана кніга Валер'яна Харкевіча, прысвечаная гісторыі Жыровічаў. У самой яе назве, якая з'яўляецца першым радком калісьці вядомай у нашым краі рэлігійнай песні, аўтар занатаваў значэнне ў гісторыі мястэчка Жыровіцкага Абраза Маці Божай:

*Жыровічы - ласкаю крыніцы*
*На ўвесь свет пралілася,*
*Калі Марыя як гарлачык*
*На грушцы з'явілася.*

Таму нездарма гэтую "ласку" можна інтэрпрэтаваць і як "добразычлівасць", або "літасць" ці нават "шчодрасць".

Валер'ян Харкевіч (1890-1950) быў польскім гісторыкам і публіцыстам. Скончыў Віленскі ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя. У 1928 годзе атрымаў ступень доктара навук.

У 1939 годзе ўдзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць Чырвонай арміі, патрапіў у палон і быў накіраваны ў лагеры НКУС у Казельск, а затым у Гразавец. З восені 1941 года пераведзены ў армію генерала Андэрса, дзе ўзначаліў бюро гістарычных даследаванняў.

Пасля вайны жыў у Лондане. Займаўся даследаваннем гісторыі ўзаемаадносін розных канфесій у ВКЛ, магнацкіх родаў і гісторыяй палякаў у гады Другой сусветнай вайны.

У міжваенны час актыўна падарожнічаў па тэрыторыі Другой Рэчы Паспалітай, вынікам чаго з'яўляліся шматлікія артыкулы з апісаннем найбольш знакавых помнікаў той ці іншай мясцовасці. Не абышоў увагай ён і наш Слонім, якому прысвяціў некалькі тэкстаў. Але найбольш яго ўразілі Жыровічы, неадпаведнасць іх ранейшай велічы з тым станам, у якім яны знаходзіліся ў час жыцця Харкевіча.

Аўтар зазначае, што слава мястэчка была напоўненая бляскам у часы, калі паміж Каталіцкім касцёлам і Праваслаўнай царквой не было такога страшэннага падзелу.

Кніга пачынаецца рэпрадукцыяй малюнка невядомага манаха, на якім адлюстраваныя дзесяць эпізодаў з гісторыі Жыровіцкага Абраза Маці Божай – ад яго з'яўлення да бітвы пад Палонкай.

Далей Харкевіч апісвае геаграфічныя ўмовы размяшчэння Жыровічаў, тлумачыць саму назву населенага пункта, які ў ранейшыя часы быў не меньш вядомы, чым польская Чанстахова. Назва Жыровічы паходзіць ад выразу "жыр" або "жэр", што значыць "тлушч", "пакорм" або "паша".



Пасля даецца апісанне легенды з'яўлення Абраза, будаўніцтва тут царквы пры Солтане, развіцці храма пры Мялешках іператварэння Жыровіч у часы Юзэфата Кунцэвіча ў галоўны асяродак уніяцтва.

У 1644 годзе Жыровічы наведаў кароль Рэчы Паспалітай Уладыслаў IV з жонкаю Цэцыліяй Рэнатай і пры вялікай колькасці шляхты. З таго часу ўсе каралі, за выключэннем Міхаіла Карыбут-Вішнявецкага, сталі рабіць пелігрымкі ў Жыровічы.

У 1652 годзе мястэчка атрымала ад караля Яна Казіміра магдэбургскае права, якое паслужыла яго хуткаму эканамічнаму росту.

Харкевіч падрабязна апісвае гісторыю мястэчка, найбольш важныя пелігрымкі каралёў да яго Абраза, дзейнасць ордэна базыльянаў. Асаблівую ўвагу надае каранаванню Абраза Жыровіцкай Божай Маці, якое ператварылася ў сапраўднае свята для ўсёй краіны і доўжылася з 19 па 26 кастрычніка 1730 года. За гэты час Жыровічы наведалі 140352 чалавекі.

Адзін з абразоў Маткі Божай Жыровіцкай маецца нават у Рыме.

У якасці дадаткаў Харкевіч змяшчае малітвы да Жыровіцкай Божай Маці, словы дзвюх рэлігійных песень і ноты да іх.

Таксама аўтар змясціў спіс некаторых цудаў, якія адбыліся ў Жыровічах з 1580 па 1730 год.

У цэлым кніга В. Харкевіча і сёння ўяўляе цікавасць, напісаная ў першую чаргу для ўдзельнікаў рэлігійных пелігрымак.

**Васіль Герасімчык**

# Вельжабка ў Слоніме



*Вельжабка, 2016 год.*
*Фота Алеся Масюка*

Нядаўна правёў эксперымент: распытваў людзей сталых і маладых пра назву ручая каля Касаўскага тракта ў Слоніме. Нават мясцовыя жыхары яе не ведалі... А ў даваенны час назву ручая можна было сустрэць на старонках мясцовай прэсы. Час аднак амаль сцёр памяць пра яе. Хаця ў інтэрнэце знайшліся некалькі згадак пра Вельжабку (менавіта так называецца ручай). З’явіліся яны дзякуючы старым картам, якія захавалі для нашчадкаў назву колішняй рэчкі, прытока Шчары.

Да пачатку XX стагоддзя Вельжабка была за межамі горада. Яе, як рэчку “Вельжанка”, пазначылі на карце 1887 года. Безумоўна, гэта памылка, а не варыянт назвы. Рэчка бегла па багністай мясцовасці, бяручы пачатак дзесьці ў раёне цяперашняй Брэсцкай вуліцы. Сваю апошнюю назву (верагодна, былі і ранейшыя) яна атрымала яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. Рускаму чыноўніку быў незразумелы сэнс польскай назвы “Вельжабка” — шмат жабаў.

Калі ў мясцовасці, якая называлася Скробава (адсюль і Скробаўская вуліца, пасля — Жыровіцкая, Маскоўская, 3 Мая, Чырвонаармейская), пачалі ўзводзіцца вайсковыя казармы, праваслаўная царква каля іх, іншыя будынкі, ручай апынуўся ў




*“Вельжанка” на карце 1887 года*




*Рака Вельжабка на карце 1913 года*




*Фрагмент карты 1926 года*




*Фрагмент карты 1940 года*




*Вельжабка на карце 1987 года*

межах Слоніма. На карце 1913 года пазначаны мост, які ў той час быў на цяперашняй Чырвонаармейскай вуліцы (у раёне будынка ўжо былога Дома афіцэраў). Назва рэчкі ўжо правільная — Вельжабка.

На польскай карце 1926 года (як і на карце 1931 года) можна таксама пабачыць гэты мост. Вельжабка тады працякала ў бок Шчары праз тэрыторыю вайсковай часткі, на поўдзень ад касцёла (былой царквы). Вясной яна прыносіла нямала праблем мясцовым жыхарам і вайскоўцам. Як пісала 8 лютага 1933 года газета "Навагрудскі кур'ер" ("Kurjer Nowogródzki"), пасля пацяплення і некалькіх дзён дажджоў рэчка Вельжабка выйшла з сваіх берагоў і затапіла каля 100 метраў вуліцы 3 Мая, былі падтопленыя 10 дамоў. "Камунікацыя казармаў з горадам значна абцяжараная", — пісала выданне.

Дамы на Косаўскім тракце сталі актыўна будавацца ў першыя пасляваенныя гады. Вельжабка працягвала разлівацца, затапляць агароды, гаспадарчыя пабудовы, дамы. З-за рэчкі былі праблемы і ў вайскоўцаў. Відаць, пры іх удзеле і было прынятае гарадскімі ўладамі рашэнне пра змяненне рэчышча Вельжабкі. З 1950-х яна ўжо цячэ ўздоўж Косаўскага тракта да скрыжавання Чырвонаармейскай і Шасейнай, упадае ў Шчару злева ад Баранавіцкага маста.

**Сяргей Ёрш**

# Віталь Скалабан: "Шкадую, што ні разу больш так і не пабыў на Слонімшчыне"



20 жніўня споўніцца пяць гадоў, як не стала нашага земляка, вядомага беларускага гісторыка, літаратуразнаўца, архівіста Віталя Уладзіміравіча Скалабана (1947 — 2011). Ён нарадзіўся ў вёсцы Шылавічы Слонімскага раёна, але з чатырох гадоў жыў у Ляхавічах, пасля — у Мінску. Скалабан захапляўся краязнаўствам, складаў краязнаўчы даведнік. Ён быў "чалавекам-энцыклапедыяй". Заўсёды буду яму ўдзячны за каштоўныя парады. У ліпені 1997-га ў Мінску я запісаў кароткія ўспаміны Віталя Скалабана пра яго дзяцінства, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся. Прапаную іх увазе чытачоў "СК".

**Сяргей Ёрш**

**Віталь Скалабан**: Дзе я нарадзіўся? У пашпарце напісана: Шылавічы. Але, наколькі я разумею, гэта Вялікія Шылавічы. Бацька працаваў настаўнікам, дырэктарам 7-гадовай школы ў Шылавічах. Бацькі самі са Случчыны, са Старобіншчыны. Пасля вайны бацька прыйшоў з фронту і разам з маці прыехалі на Слонімшчыну. Маці працавала ў Жыровічах, выкладала ў тэхнікуме. У Шылавічах я і нарадзіўся ў 1947 годзе.

У 1951 годзе бацькі пераязджаюць у Ляхавічы. І там фактычна я школу скончыў, паехаў вучыцца ў Ленінград, у 1970-м скончыў мясцовы ўніверсітэт...

Шкадую, што ні разу больш так і не пабыў на Слонімшчыне. Толькі быў праездам некалькі разоў у Слоніме. Сваякоў тут у мяне няма.

Што памятаю я? Памятаю Шылавіцкую школу, дзе жылі (мы жылі ў будынку школы), як у ёй паказвалі кіно, фільмы, якія прывозілі. Аднойчы я захварэў. Маленькі быў, але памятаю, як трапіў у Слонім у бальніцу.

Таксама ў памяці ўсплываюць нейкая кузьня, шылавіцкая царква. Чатыры гады мне было, але памятаю...

*Слонімскія карэспандэнцыі*

# Незвычайны аўтамабільны выпадак



*На здымку бачым участак вуліцы Сянкевіча (цяперашняй Першамайскай), дзе і адбылося здарэнне. У цэнтры — кінатэатр "Мадэрн", злева — слуп на ўездзе на Гандлёвую плошчу (цяперашнюю плошчу Леніна).*

Шафёр Міхневіч пакінуў грузавік № 6905 з уключаным маторам каля кінатэатра "Мадэрн" [у Слоніме], сам кудысьці адыйшоў. На гэтым аўтамабілі было каля 50 дзяцей, якія на гэтым аўто ездзілі на вуліцах горада з нагоды "Тыдня дзіцяці". У нейкі момант з невысветленай дагэтуль прычыны аўто паехала без кіроўцы ў бок Гандлёвай плошчы, але на выездзе з вуліцы Сянкевіча збочыла і ўдарылася ў тэлефонны слуп. Была вялікая паніка і крык сярод дзяцей, якія былі ў аўтамабілі. У той момант прыбег шафёр і грузавік затрымаў. На шчасце гэты выпадак не прывёў да ахвяр.

*Kurjer Nowogródzki ("Навагрудскі кур'ер"), 1931, № 17, 7 кастрычніка.*

# Войцех Корчыц — унук паўстанца

Публікацыя ў мінулым нумары "СК" пра сустрэчу ў 1943 годзе на Слонімшчыне польскіх падпольшчыкаў і савецкіх партызан[1] шырока разыйшлася ў інтэрнэце. На адным з сайтаў яна набрала больш за 5 тысяч праглядаў. А ў каментарах адгукнуўся сваяк аднаго з герояў публікацыі паручніка Войцеха Корчыца. Вось што ён піша:

"Войцех Корчыц — стрыечны брат маёй бабулі. Радавы маёнтак Багданавічы канфіскоўваўся царскім урадам за ўдзел яго дзеда Ксаверыя ў паўстанні 1863 года. Уладзіслаў Корчыц (савецкі ваеначальнік, у далейшым ледзьве не міністр абароны ў ПНР) прыходзіўся Войцеху таксама стрыечным братам. Вось так адбываецца ў жыцці... Адзін — за Саветы, другі — супраць. [...]

Вітэк Брохвіч".[2]

На жаль, пра лёс Войцеха Корчыца ён нічога не ведае. У базах рэпрэсаваных згадваецца нейкі Войцех Канстанцінавіч Корчыц, 1907 года нараджэння, ураджэнец в. Багданавічы Слонімскага раёна, паляк, з пачатковай адукацыяй. Яго арыштавалі 2 лістапада 1940 года ў Вільні (у той час нямала палякаў, якія не змаглі выехаць з Заходняй Беларусі, спрабавалі "згубіцца" ў вялікіх гарадах). 21 траўня 1941-га Войцех Корчыц быў асуджаны на 8 гадоў папраўча-працоўных лагероў за ўдзел у "контррэвалюцыйнай арганізацыі" і нелегальным пераходзе дзяржаўнай мяжы. Па гэтым прысудзе яго ў лютым 1994 года рэабілітаваў пракурор Гродзенскай вобласці.

Верагодна, Корчыц апынуўся на волі летам 1941 года на пачатку вайны. Справа ў тым, што 18 ліпеня 1945 года вайсковы трыбунал войск НКВД Баранавіцкай вобласці асудзіў на 10 гадоў папраўча-працоўных лагероў Войцеха Канстанцінавіча Корчыца, 1907 г. н., паляка, які жыў у в. Багданавічы. Артыкул — 63-1, "здрада радзіме". Можна меркаваць, што пасля ўцёкаў з турмы ці падчас транспарціроўкі вязняў летам 1941 года Корчыц вярнуўся ў родную вёску. На жаль, пакуль невядома, ці гэта ён быў пасля ў польскім падполлі і сустракаўся ў савецкімі партызанамі. У прысудзе 1945-га адзначаецца, што Войцех Корчыц быў бухгалтарам.[3]

**СЁ**

1. Ёрш С. Дакумент пра сустрэчу прадстаўнікоў савецкіх партызан і польскага падполля ў 1943 годзе на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 6, ліпень, с. 6-7.
2. https://charter97.org/be/news/2016/7/10/212758/comments/#comments
3. Жертвы политического террора в СССР // http://lists.memo.ru/d17/f424.htm

*Старыя фотаздымкі*

# Фота хаты Сяргея Новіка-Пеюна ў Слоніме



У Слоніме паэт і празаік Сяргей Новік-Пяюн (1906 — 1994) жыў у 1931-1944 гадах (і кароткі час у 1959 годзе). У 1936 годзе разам з жонкай Людмілай ён пасяліўся на Агароднай, 8 (сённяшняя вуліца Ф. Багушэвіча). Там была рэдакцыя польскамоўнай "Слонімскай газеты", якую яны выдавалі. 14 лістапада 1939 года Новіка-Пеюна ў гэтай хаце наведаў народны паэт Беларусі Янка Купала. У ліпені 1944 года падчас баёў са Слонім паміж савецкімі і нямецкімі войскамі хата на Агароднай згарэла. У 1977 годзе у сваёй аўтабіяграфіі Сяргей Новік-Пяюн пісаў: "Там загінулі мае дакументы, шматлікія мае рукапісы /вершы, п'есы, апавяданні, блакноты, фотаздымкі і іншае/".*

Здымак, які друкуецца ў гэтым нумары "СК", захаваўся ў архіўных зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Ён быў зроблены ў 1938 годзе. Фота друкуецца ўпершыню.

**Сяргей Ёрш**

*Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук, ф. 61, в. 1, спр. 198, арк. 3.

*Слонімцы ў свеце*

# Прамысловец і мецэнат Скідзельскі



У 1845 годзе ў Слоніме нарадзіўся Хаім Лейба Шымон Скідзельскі, яўрэй, які з часам стаў знакамітым прамыслоўцам на Далёкім Усходзе Расіі. З 1871 года ён жыў у Ваўкавыску, дзе ўдала ажаніўся. Займаўся гандлем, пачаў з невялікай лаўкі, а пасля пашырыў свой "бізнес", уступіў у гільдзію купцоў. У 1885 годзе разам з сям'ёй пераязджае ва Украіну, у Екацярынаслаў (цяпер горад Дняпро, былы Днепрапятроўск), укладае грошы ў будаўніцтва чыгункі. Калі пачала будавацца чыгунка на Далёкім Усходзе Расіі, Скідзельскі ў 1893 годзе атрымлівае дазвол і пераязджае ва Усурыйскі край, удзельнічае як падрадчык у пабудове Паўночна-Усурыйскай чыгункі. Працуе вельмі паспяхова, работы выконваюцца якасна і ў прызначаны тэрмін, у 1896 годзе становіцца купцом 1-й гільдзіі, атрымлівае дазвол на пражыванне ва Уладзівастоку. Ён меў званне ганаровага грамадзяніна горада, займаўся мецэнацтвам, фінансаваў дзейнасць Таварыства вывучэння Амурскага края і яго музея.

Слонімец у гэты час пачаў сябе называць Лявонціем Сямёнавічам Скідзельскім. Яго "бізнес" імкліва пашыраўся. Фірма Скідзельскага займалася будаўніцтвам чыгункі, дамоў, распрацоўкай лесу, а пасля і вугальнымі шахтамі. У пачатку XX стагоддзя Лявонцій Скідзельскі быў адным з самых заможных прамыслоўцаў Далёкага Усходу. Яго фірма пачала працаваць і ў Манчжурыі. Менавіта гэтая частка "бізнесу" слонімца і ацалела ў пачатку 1920-х, калі на тэрыторыі Савецкай Расіі ўся маёмасць Скідзельскіх была нацыяналізаваная.

Лявонцій Скідзельскі памёр 8 кастрычніка 1916 года (па некаторых звестках, у Адэсе). Гродзенскі гісторык Валерый Чарапіца выдаў кнігу пра дынастыю Скідзельскіх*, у якой апісаў трагічны лёс сыноў прамыслоўца. Яго справу працягвалі Саламон і Сямён, якія да 1945 года жылі ў Манчжурыі (Саламон быў ганаровым консулам Партугаліі ў Харбіне). Там іх арыштавалі савецкія спецслужбы, браты памерлі ў зняволенні. Маісея бацька з нейкай прычыны пазбавіў спадчыны, ён таксама жыў у Харбіне і яго лёс невядомы. Якаў і маці, Ганна Абрамаўна, памерлі ў 1917 годзе.

**Генадзь Гурскі**

*Черепица В. От Волковыска до Харбина: торгово-промышленная династия Скидельских (конец XIX — середина XX в.) в документах и материалах. — Гродно, 2009.

# Крыж на Ружанскіх могілках



На Ружанскіх могілках у Слоніме насупраць старой брамы стаіць высокі бетонны крыж. Калісьці на ім была шыльда з нейкім тэкстам, але яна, відаць, знікла яшчэ ў савецкія часы.

Крыж з'явіўся найхутчэй у сярэдзіне XX стагоддзя. Дакладна невядома, ці ён стаіць на магіле, ці быў пастаўлены на ўскрайку могілак з нейкай нагоды. Магчыма, хтосьці з чытачоў "СК" нешта ведае пра гісторыю з'яўлення крыжа. Напішыце на рэдакцыйны адрас: slonimskikraj@gmail.com

**Генадзь Гурскі**, фота аўтара



# Пра імя паэта Гальяша Леўчыка



Летась у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі давялося праглядаць картатэку з біяграмамі дзеячоў беларускай культуры і нацыянальнага руху, якую яшчэ ў 1960-я гады стварыў Адольф Клімовіч. На картцы нашага земляка, паэта-нашаніўца Гальяша Леўчыка (1880 — 1944, сапраўднае прозвішча Ляўковіч) затрымаўся. Клімовіч піша, што ў савецкія часы "нават само беларускае імя паэта "Гальяш" (гэта-ж не псеўданім!) перадаецца на казённы лад "Ілья".

Гэта ён крытыкаваў даследчыкаў, якія рабілі публікацыі пра слонімца (найперш Уладзіміра Калесніка). З іх лёгкай рукі "Ілья Міхайлавіч Ляўковіч" трапляў у энцыклапедыі, у кнігу "Памяць". А ўжо пасля падхапілі аўтары, якія пісалі і працягваюць пісаць у перыёдыку аж да апошняга часу. Каюся, і сам выкарыстоўваў гэты варыянт. Не задумваючыся.

Цяпер жа, прачытаўшы картку Адольфа Клімовіча, паспрабаваў разабрацца. Як жа сябе называў сам Гальяш Леўчык? Нямала сваіх лістоў ён падпісваў не псеўданімам, а сапраўдным прозвішчам: Гальяш Ляўковіч, Г. Ляўковіч, Э. Ляўковіч (па-руску: "Э. Левкович", па-польску: "E. Lewkowicz", "Eliasz Lewkowicz"). Але нідзе ён не напісаў "Ілья"!

Гальяшом Леўчыкам ці Ляўковічам называюць яго ў сваіх успамінах Зоська Верас і Ян Пятроўскі, людзі, якія добра ведалі паэта, ліставаліся з ім. Гісторык Юрый Туронак, паэт Сяргей Новік-Пяюн заўсёды выкарыстоўвалі такі варыянт: Гальяш Леўчык (Ляўковіч). І ён, відавочна, праўдзівы.

Відаць, варта на гэта звярнуць увагу даследчыкам, а таксама стваральнікам вікіпедыі ў інтэрнэце.

**Сяргей Ёрш**

# Васіль Двоеў – псеўданім Івана Міско



*І. Міско ў гады Вялікай Айчыннай вайны*

У слонімскага пісьменніка Івана Міско (1912-1999) быў не толькі адзін вядомы псеўданім Анатоль Іверс, а яшчэ некалькі. Свае журналісцкія карэспандэнцыі, а таксама вершы Іван Міско падпісваў і псеўданімамі, а таксама крыптанімамі Філіпаў, В.Д., В.Двоеў, Васіль Двоеў. Пра гэта нават згадвае ў сваім "Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI-XX стст.)" (Мн., 1983) Янка Саламевіч.

Пад псеўданімамі Васіль Двоеў, В.Двоеў, крыптанімам В.Д. Іван Міско актыўна друкаваў свае інфармацыі і вершы ў слонімскай газеце "Вольная праца" падчас Другой сусветнай вайны ў 1943-1944 гадах. У "Вольнай працы" (20 траўня 1944 г.) пад крыптанімам В.Д. была змешчана інфармацыя "Фашысты грабяць сялян". У № 18 ад 7 чэрвеня 1944 года пад гэтым крыптанімам друкаваўся і матэрыял "Грабяжы і насільствы не спыняюцца", у № 20 ад 23 чэрвеня 1944 года В.Д. публікуе і матэрыялы "Арышты і грабяжы", "Гінуць ад уласных мін" і г.д.

Іван Міско ставіў свае псеўданімы В. Двоеў, Васіль Двоеў і пад вершамі. Пад гэтымі псеўданімамі былі апублікаваны яго вершы ў "Вольнай працы": "Нагарода" (30 снежня 1943 г.), "Вайна" (12 чэрвеня 1944 г.), "Ліст у Нямеччыну" (2 лістапада 1943 г.), "Партызаны-камсамольцы" (21 кастрычніка 1943 г.) і шэраг іншых.

Адзін верш Васіля Двоева "Ліст у Нямеччыну" прапануем чытачам "СК". Дарэчы, гэты верш друкаваўся ў зборніку паэта "З пройдзеных дарог" (Мн., 1970. С.35). Але ў ім адсутнічалі дзве страфы. Таму сёння верш "Ліст у Нямеччыну" Васіля Двоева (Анатоля Іверса-Івана Міско) друкуецца ў першапачатковым варыянце.

**Сяргей Чыгрын**

***Ліст у Нямеччыну***

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.
Ці чуў ты, таварыш, пра тое,
Што нашае вёскі няма.
Яе падпалілі фашысты,
Пабілі старых і малых.
На полі пажатым і чыстым,
Гарэлі ў далі хутары.
Увесь мазалісты прыбытак
Аграбілі немцы ў вясну.
Варожаю куляй прыбіты
Твой бацька на векі заснуў.
Я вырваўся з воўчае пасці,
Узяўшы напрамак у лес.
Грамлю гітлероўскія часці
На шошах, чыгунцы, сяле…
Я знаю – чытаеш газеты,
Што ў нас адбудова ідзе,
І думаеш можа аб гэтым,
Рабочы канчаючы дзень…
Пішы, як жывецца ў няволі…
Заводы і склады палі…
А сэрца, налітае болем,
Няхай па Радзіме баліць.

**Васіль Двоеў, 1943 г.**



**2 жніўня** 1833 года ў Гродне расійскімі ўладамі быў павешаны ўраджэнец Слонімшчыны Міхал Валовіч, герой вызваленчага паўстання. Яго цела тайна пахавалі. На могілках вёскі Парэчча існуе сімвалічная магіла Валовіча.

**5 жніўня** 1947 года ў вёсцы Шылавічы нарадзіўся Віталь Скалабан, вядомы беларускі гісторык, літаратуразнавец, архівіст. Памёр 20 жніўня 2011 года, пахаваны на Паўночных могілках у Мінску.

**7 жніўня** 1994 года ў Слоніме на скрыжаванні вуліц Брэсцкай і Шасейнай, на месцы былых яўрэйскіх могілак, адкрылі мемарыял у памяць пра ўсіх памерлых і загінулых на Слонімшчыне яўрэяў.

**9 жніўня** 1890 года ў Чамярах нарадзіўся Максім Бурсевіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, арганізатар беларускага школьніцтва, вязень польскіх і савецкіх турмаў. Расстраляны ў 1937 годзе на Салаўках.

## *Каляндар*

# Жнівень



**12 жніўня** 1877 года ў Сурынцы нарадзіўся Хведар Данілюк, беларускі рэлігійны і вайсковы дзеяч, удзельнік Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання 1920 года. Памёр 29 ліпеня 1960 года ў ЗША.



**27 жніўня** 1906 года ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна нарадзіўся паэт Сяргей Новік-Пяюн (сапраўднае прозвішча Новік). Жыў у Слоніме ў 1931-1944, 1959 гадах, быў дырэктарам Слонімскага краязнаўчага музея. Памёр 26 жніўня 1994 г. у Мінску.



**27 жніўня** 1993 года памёр слонімскі паэт Пётр Дабрыян (Алесь Сучок).

**28 жніўня** 1802 года Слонімскі павет быў уключаны ў склад Гродзенскай губерні. Да таго часу ён уваходзіў у Літоўскую губерню.

**29 жніўня** 1949 года ў вёсцы Вяценеўка Слонімскага раёна нарадзіўся Леанід Мальцаў, генерал-палкоўнік, старшыня Дзяржаўнага памежнага камітэта Беларусі (з 2013 года). Двойчы быў міністрам абароны нашай краіны.

**30 жніўня** 1885 года ў Навагрудку памёр паэт Юльян Корсак, які нарадзіўся ў Слоніме 13 лютага 1806 года.

## *In memoriam*

# *Памёр Аляксандр Пасько*



З вялікім спазненнем прыйшла сумная вестка пра смерць Аляксандра Пасько, заслужанага настаўніка і выдатніка асветы, пачынальніка слонімскай дзіцяча-юнацкай школы веславання. Як паведаміў нам сын Аляксандра Іванавіча Юрый, яго бацька памёр яшчэ 15 красавіка. Не ведаючы пра гэта, у апошнія месяцы неаднаразова набіралі нумар яго мабільнага, але ён маўчаў...

Аляксандр Пасько нарадзіўся 15 ліпеня 1932 года ў вёсцы Баравікі на Слонімшчыне. Праз некалькі гадоў сям'я пераехала ў Слонім. Пасько скончыў СШ № 1, пасля — Дзяржаўны інстытут фізічнай культуры ў Кіеве, настаўнічаў. У 1957-м стварыў сям'ю, нарадзіліся трое дзяцей. Ён працаваў у Слоніме трэнерам па веславанню, плаванню, лыжных гонках. Быў аддады сваёй любімай справе, вельмі любіў спорт. А яшчэ Аляксандр Іванавіч быў шчырым вернікам, паэтам, пісаў песні. Яго беларускамоўныя вершы-песні, прысвечаныя слонімскім вёскам, знакамітым землякам, блізкім людзям, друкаваліся ў мясцовым друку.

"Мне ніколі не было цяжка. Мне падабаецца плыць супраць плыні", — гэта радкі з аднаго з інтэрв'ю Аляксандра Іванавіча. Яго пахавалі на могілках каля вёскі Скоўдзічы Слонімскага раёна.

Светлая памяць!

***Рэдакцыя "Слонімскага края"***

*Здымак Алеся Масюка*

**Слонімскі край**
Краязнаўчы бюлетэнь
Выдаецца з лютага 2016 года

Адрас для карэспандэнцыі:
slonimskikraj@gmail.com
Пры передруку спасылка
на СК абавязковая

Заснавальнікі і выдаўцы:
Васіль Герасімчык
(рэдактар нумару)
Сяргей Ёрш
Сяргей Чыгрын